АДНА ЗЯМЛЯ

Маладзечна, Вілейка, Смаргонь, Ашмяны, Валожын, Мядзел, Астравец, Мінск

# Рэгіянальная газета

28 ЖНІЎНЯ - 3 ВЕРАСНЯ 1998 ГОДА
ІНФАРМАЦЫЙНА-РЭКЛАМНАЕ ВЫДАННЕ
ЦАНА 4000 РУБЛЁЎ
№35 (175)

ВАЛОЖЫН

## На дарогах стала цішэй

Аддзяленне ДАІ ўсур'ёз занялося бяспекай руху ў райцэнтры. На галоўных вуліцах горада хуткасць машын будзе абмежаваная да 40 кіламетраў у гадзіну.

Зробленыя і чакаюць устаноўкі ў двух мікрараёнах горада новыя знакі "Жылая зона". Гэта яшчэ шэраг абмежаванняў для вадзіцеляў: хуткасць не вышэй за 20 км, забарона скразнога праезду, стаянкі з уключаным рухавіком і інш.

*Ларыса КАРНЕЕВА.*

АШМЯНЫ

## "Бераставіцкая" па-ашмянску

Неўзабаве мясцовыя жыхары змогуць набываць у крамах мінеральную ваду, якая будзе вырабляцца на камбінаце кааператыўнай прамысловасці. Для гэтых патрэб тут ужо набылі польскую лінію па разліве мінеральнай вады.

Тое, што на тэрыторыі Ашмяншчыны няма мінеральнай вады, кааператараў асабліва не засмуціла, бо яны ўжо заключылі дамову на яе набыццё ў Бераставіцы. Натуральна, назва мінералкі будзе адпаведная.

*Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ.*

ВАЛОЖЫН

## Яшчэ адна АЗС

На 74-м кіламетры трасы Мінск–Гродна, каля Сельгасхіміі, распачалося будаўніцтва аўтазаправачнай станцыі. Прадпрыемства "Лукойл–Валожын", якое адкрывае яе, плануе рабіць па 500 заправак у суткі. Тэрмін здачы АЗС – другая палова лістапада.

*Наталля ШТЭЙНЕР.*

МАЛАДЗЕЧНА

## Новая каплічка

Па ініцыятыве прадстаўнікоў мясцовых аддзяленняў БДА "Ветэран", БНФ "Адраджэнне" на сабраныя імі ахвяраванні ў вёсцы Насілава збудаваная і адкрытая памятная каплічка, узведзеная рукамі **Сымона Дзяніса, Лявона Шымана, Міхаіла Чаеўскага і Святаслава Паліводы**

Стаіць яна на месцы былой уніяцкай, а затым знішчанай напачатку 60–х гадоў праваслаўнай царквы, каля зруйнаваных могілак і брацкай магілы савецкіх воінаў, што вызвалялі Маладзечна ў ліпені 1944 года. Каплічку асвяціў святар Лебедзеўскай Крыжаўзвіжанскай праваслаўнай царквы **Уладзімір Кудрэвіч.**

*Алесь ЦАДКО.*

ВІЛЕЙКА

## Рыхтуй мачалку, вілейчанін!

На мяжы вясны і лета ў горадзе была адключаная гарачая вада. У пятніцу, сказаў галоўны інжынер ВА ЖКГ **Анатоль Додрыкаў**, цеплавікі пачнуць грэць ваду зноў. Усё гатова для гэтага. Некаторыя перашкоды-парывы ў трасах, выяўленыя падчас выпрабаванняў, ліквідуюцца. Гарачая вада будзе ўжо ў суботу.

*Аддзел інфармацыі.*

АСТРАВЕЦ

## Калі ў кране няма вады

Гарачая вада ў кватэрах астраўчан да нядаўняга часу з'яўлялася тры разы на тыдзень – пятніцу, суботу і нядзелю. Зусім нядаўна нават і ў гэтыя дні яна ў кранах адсутнічала і, як паведамілі карэспандэнту "РГ" у аб'яднанні жыллёва–камунальнай гаспадаркі, з'явіцца толькі з пачаткам ацапляльнага сезона.

Цяпер камунальнікі працуюць над заменай трубаў на тых участках водаправодаў, дзе ўзнікла такая неабходнасць. А жыхары тымчасам вымушаныя здабываць гарачую ваду з дапамогай газавай пліты. Балазе, што газаправоды не рамантуюцца.

*Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ.*

ВАЛОЖЫН

## Разборкі

Каля 1 мільярда рублёў за лета асвоена на будаўніцтве кулінарнага камбіната райспажыўтаварыства. Даўгабуду, што ў цэнтры горада, за 10 гадоў. Да канца сёлетняга года з ім павінны канчаткова разабрацца.

*Наталля ШТЭЙНЕР.*

АСТРАВЕЦ

## Доўг плацяжом...

Апошнімі месяцамі некаторыя кіраўнікі аб'яднання жыллёва–камунальнай гаспадаркі пазбаўляліся прэмій за тое, што ёсць астраўчане, якія па некалькі год не плацяць за кватэры. Сумы сягаюць да трох і нават пяці мільёнаў рублёў.

На самых злосных неплацельшчыкаў камунальнікі будуць падаваць у суд.

*Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ.*

ВАЛОЖЫН

## Аўтамат ізраільскі – тварог валожынскі

Такая форма выпуску новай прадукцыі асвоеная на масласырзаводзе. Тварожны крэм і бялкова–сметанковая паста з дабаўленнем какавы гатуюцца на аснове мясцовага тварагу. А вось прыгожай і зручнай упакоўкай навінка абавязаная расфасовачнаму аўтамату ізраільскай фірмы "Паклайм".

*Ларыса КАРНЕЕВА.*

*1 ВЕРАСНЯ*

# Будзем жыць па–новым

### Напярэдадні 1 верасня наш карэспандэнт сустрэўся з дырэктарамі навучальных устаноў Вілейкі


*С. Клямячыц, СШ №1*


*Б. Кантаровіч, гімназія*


*М. Гіро, СШ №3*


*У. Бадзееў, СШ №4*


*В. Сляпцоў, пачатковая шк.*


*С. Карначова, дз. садок №12*


*М. Ваўчкоў, школа-інтэрнат*


*А. Доўбышаў, СШ №5*

***ВІЛЕЙКА. Дырэктар СШ №1 Святаслаў Клямячыц:***

– Будынку школы 40 год. Сёлета з'явілася магчымасць яго пашырыць. Тэхнічны паверх над спартыўнай залай надбудавалі – і атрымалася, лічы, яшчэ адна спартзала. Тут будуць, хутчэй за ўсё, бібліятэка, гурткі па інтарэсах. Пад гэта выдаткавана 660 мільёнаў бюджэтных грошай. Таксама за лета ў больш прасторнае памяшканне пераехаў камп'ютэрны клас; адкрылі кабінет сусветнай мастацкай культуры. Дапамагло ВА "Буддэталь" – вагонкай абшылі 5 класаў (толькі ў кабінет біялогіі яе пайшло на 11 мільёнаў).

У навучальным працэсе застаецца ўсё, як і летась.

***Дырэктар гімназіі Барыс Кантаровіч:***

– Наш дэвіз "Свет створаны словам і справай" – гэта філасофія гімназіі. Мы імкнемся адысці ад школы, зарыентаванай на прадметы, да школы, зарыентаванай на вучня. Праграма ў нас пад дзяцей. Удзельнічаем у беларуска–галандскім праекце "Матра". У чэрвені ў Мінску на міжнароднай канферэнцыі праводзілі педагагічную майстэрню – паказвалі, на што здольныя. У нас новы сучасны камп'ютэрны клас. Праграмы навучання па ўсіх прадметах запісаныя на кампакт–дысках. Камп'ютэр паставілі і ў бібліятэку. Выпісваем шмат газет, часопісаў з Беларусі, Расіі, якія маюць дачыненне да адукацыі. Уся інфармацыя сістэматызуецца і ўносіцца ў камп'ютэр. Гэта дае магчымасць імгненна абслужыць чытача, знайсці і раздрукаваць любы матэрыял. А для самастойнай работы гімназістаў на Дальтан–гадзінах існуе "вольная зона" – паставілі некалькі сталоў на калідор.

***Дырэктар СШ №3 Мікалай Гіро:***

– У сталоўцы ўводзім спецыяльную форму для дзяжурных: для дзяўчынак блакітную сукенку з кветкамі, для хлопчыкаў – каляровую камізэльку. Бо ў сталоўцы вучань павінен не толькі пад'есці, але і атрымаць эстэтычнае задавальненне.

Раней настаўнікі распраналіся ў настаўніцкай. Цесна было. Зрабілі для іх гардэроб на 1–м паверсе. А вызваленае ад шафаў месца ператварылі ў пакой псіхалагічнай разгрузкі педагогаў – мяккая мэбля, спакойныя тоны інтэр'ера.

Школа ў нас адносна невялікая. Таму ўсе рамонтныя работы робім разам. Наша сям'я (педагогі, бацькі, дзеці) такім чынам абнавіла кабінеты матэматыкі, геаграфіі. А калі вучань мае "залатыя" рукі, ім заўсёды знойдзецца прымяненне: карніз з пляцёнкі на ўваходзе змайстравалі вучні, яны ж па–новым аформілі на калідорах выстаўкі, стэнды. Старшакласнікі паглыблена вывучаюць англійскую мову, на павышаным узроўні – матэматыку, фізіку, хімію і біялогію. У пачатковых класах пашыраецца развіццёвае навучанне па сістэме Давыдава. Адкрываем клас інтэграванага навучання.

***Дырэктар СШ №4 Уладзімір Бадзееў:***

– Наша школа самая вялікая – 1600 навучэнцаў. Сёлета адкрываюцца ліцэйскія класы (10–11 кл.) па профілях – хіміка–біялагічны, фізіка–матэматычны, філалагічны з паглыбленым вывучэннем замежнай мовы.

*Заканчэнне на 2-й ст.*

## Санэпід інфармуе

■ **У лабараторыях Маладзечанскага цэнтра гігіены і эпідэміялогіі даследаваны 51 узор харчовых прадуктаў – усе адпавядалі норме, 63 бактэрыялагічныя даследаванні вады, 58 проб водаправоднай вады, з якіх 1 проба не адпавядала патрабаванням Даста, 3 пробы вады з шахтавых калодзежаў – не адпавядаюць санправілам усе пробы (в. Палачаны). У сувязі з гэтым звяртаем увагу сельскіх жыхароў на мэтазгоднасць ужывання халоднай вады толькі пасля кіпячэння.**

■ У радыелагічнай лабараторыі даследаваныя 54 пробы харчовых прадуктаў, перавышэнняў ПДК не знойдзена.

■ На правядзенне бягучага рамонту вынесеная пастанова па кандытарскім цэху п. Чысць.

*Заканчэнне на 3-й ст.*

*АНОНС*



**Гунэфа Феалкоўская** трапіла на Мядзельшчыну ў 1926 годзе, як бы мы цяпер сказалі, па размеркаванні. Для маладзенькай настаўніцы–полькі наша зямля з часам таксама стала роднай.

Пра лёс настаўніцы ў пастаяннай рубрыцы "Стары альбом" чытайце на 2–й старонцы.



*ХАБАР*

# Арыштаваныя выкладчыкі

***МАЛАДЗЕЧНА. Двое выкладчыкаў, якія былі сёлета ў прыёмнай камісіі медвучылішча, арыштаваныя. Яшчэ адзін затрыманы па падазрэнні ў злачынстве. Узбуджаная крымінальная справа па артыкуле "Атрыманне хабару". Над ёй працуе спецыяльна створаная група ў складзе работнікаў пракуратуры, аддзялення па эканамічнай злачыннасці, спецыялісты са сталіцы. Памеры хабару вымяраюцца ў тысячах долараў ЗША (толькі за сёлетні прыём у медвучылішча). Хаця спецыялісты мяркуюць, што, пакуль справа дойдзе да суда, памер хабару яшчэ ўзрасце ў некалькі разоў.***

Былыя абітурыенты сцвярджаюць, што тры гады таму неафіцыйная такса за паступленне складала 500 долараў. Сёлета – 800 долараў. Калі раней размовы з бацькамі абітурыентаў вяліся строга індывідуальна, захоўваліся ў тайне, то сёння сума неабходных грошай ледзь не напісаная на дошцы аб'яў. Спісы блатнікоў складаюцца за некалькі месяцаў да паступлення. На пытанне, хто "здаў" хабарнікаў, начальнік аддзялення па эканамічнай злачыннасці **Сяргей Козел** адказаў, што ў ГРАУС з заявай ніхто не звяртаўся.

Адпаведны артыкул Крымінальнага кодэкса абяцае ад 5 да 15 год пазбаўлення волі з канфіскацыяй маёмасці.

У медвучылішчы ідуць апошнія прыгатаванні да навучальнага года. Інфармацыя рэспубліканскага радыё аб затрыманні дырэктара вучэльні **Ларысы Тамошкінай** не адпавядае рэчаіснасці.

*Васіль САВІЦКІ.*

# Санэпід інфармуе

*Пачатак на 1-й ст.*

■Працягвае рэгістравацца высокі ўзровень інфекцыйнай захворваемасці вострымі кішэчнымі інфекцыямі. За перыяд з 17 па 21 жніўня зарэгістраваны 21 выпадак ВКІ, з іх у Маладзечне 12 (7 дзяцей і 5 дарослых), у раёне 9 (2 дзяцей і 7 дарослых). Асноўнымі фактарамі перадачы інфекцыі з'явіліся яйкі (у 7 вып.), садавіна і гароднiна – 5.

■У сувязі з пад'ёмам захворваемасці на вострыя кішэчныя інфекцыі, у Маладзечанскім РЦГіЭ распрацаваны аператыўны план правядзення санітарна–супрацьэпідэмічных мерапрыемстваў, згодна з якім праведзеныя рэйды-праверкі захавання санітарных правілаў пры рэалізацыі гародніны і садавіны на рынках, з адборам змываў на патагенныя мікрафлоры. Праверaная арганізацыя харчавання механізатараў, занятых на сельскагаспадарчых уборачных работах, праверaны санэпідрэжым гармалзавода, дзіцячай малочнай кухні, правяраецца гатоўнасць школ да новага навучальнага года. Шэраг школ раёна па стане на 17.08.98 г. былі непадрыхтаваныя да новага навучальнага года. У Маркаўскай сярэдняй школе праведзены толькі выбарачны касметычны рамонт, унутраны туалет знаходзіцца ў аварыйным стане, надворны – патрабуе рамонту. Не гатовыя да прыёму дзяцей класы, размешчаныя ў дзіцячым садку (Беніцкая базавая школа – не адрамантаваныя санвузлы, сцены, столь у глыбокіх трэшчынах, няспраўнае сантэхабсталяванне, не створаныя ўмовы для мыцця рук у перадтуалетнай у хлопчыкаў). Не праведзены рамонт харчблокаў школ у Маркаве, Лебедзеве, Заскавічах, Беніцаы. Не прыведзеныя ў адпаведнасць з санітарнымі нормамі класы інфарматыкі ва ўсіх сярэдніх школах раёна.

■За парушэнне санітарных правілаў аштрафаваныя прадпрымальнік **Р. Сцепанян**, загадчык кандытарскага цэха ў пасёлку Чысць, адказны работнік рэстарана "Маладзечна", загадчык магазіна "Карчма".

*Міхаіл ГРАБОЎСКІ, в. а. галоўурача РЦГіЭ.*

*КАНЧАЕЦЦА ЛЕТА...*

# Міністр прыйшоў у школу

***МЯДЗЕЛ. Вузлянская базавая школа лічыцца адной з самых лепшых у раёне. Пад кіраўніцтвам яе дырэктара Бярнарды Макоскі сёлета быў створаны летнік працы і адпачынку, дзейнічае "зялёны" патруль.***

Дзейнасць школы адзначаная 20–мільённай прэміяй раённага камітэта экалогіі і аховы прыроды; выканком падарыў халадзільнік. Днямі на базе школы прайшоў семінар, у якім браў удзел міністр адукацыі Васіль **Стражаў**. Ён таксама застаўся задаволены.

*Альберт КУМІШЧА.*

*СВЯТКУЕМ*

# Фабрыцы ў Раёўцы- 100

***МАЛАДЗЕЧНА. Тыдзень таму сваё 100–годдзе пачала святкаваць кардонная фабрыка "Раёўка". У зале мясцовага сельскага ДК сабраліся і ветэраны, і моладзь. На свята прыехалі госці з Маладзечна, Мінска, Заслаўя, Пухавічаў.***

Пра гісторыю фабрыкі і яе сённяшні дзень расказаў дырэктар **В. Шаблоўскі.** Было многа віншаванняў і падарункаў прадпрыемству і яго работнікам. Добра павесялілі раёўцаў артысты студыі **"Сябры" на чале з Анатолем Ярмоленкам**, які пажадаў усім быць здаровымі, багатымі і шчаслівымі. Свята доўжылася і на наступны дзень, нягледзячы на непагадзь.

У фае Дома культуры была разгорнутая выстаўка, прысвечаная юбілею. Матэрыялы падрыхтавалі вучні мясцовай школы з настаўніцай гісторыі **С. Івашанкай.**

*Мікола ЛІННІК.*

*КОНКУРСЫ*

# Узнагародзілі машынай

***ВАЛОЖЫН. Вішнеўская ўчастковая бальніца па выніках агляду–конкурсу за павышэнне культуры і якасці медабслугоўвання насельніцтва прызнаная лепшай сярод участковых бальніц Міншчыны.***

Акрамя дыплома, бальніцу "прэміравалі" санітарнай машынай.

*Наталля ШТЭЙНЕР.*

*ДАРОГІ*

# Ліхачам не месца ў войску

***МІНСК. Начальнік Галоўнага штаба Узброеных сіл Беларусі генерал-лейтэнант Міхаіл Казлоў прапанаваў службовым асобам і войсковым начальнікам прыняць актыўны ўдзел у рэспубліканскай аперацыі "Дарогам – бяспеку і правапарадак", якая пройдзе з 1 па 30 верасня па ініцыятыве Міністэрства ўнутраных спраў.***

У накіраваным ў войскі распараджэнні прапануецца, у прыватнасці, спланаваць і правесці ў беларускім войску месячнік бяспекі дарожнага руху, падчас якога арганізаваць заняткі з ваеннаслужачымі, праверыць адпаведнасць допускаў вадзіцеляў на перавозку людзей і небяспечных грузаў, правесці ў часцях агляд транспартных сродкаў.

Аабліваю ўвагу прапануецца надаць стану службовых легкавых машын, аўтобусаў, машын, абсталяваных для перавозкі людзей і небяспечных грузаў.

У распараджэнні нагадваецца аб неабходнасці няўхільнага выканання патрабаванняў кіраўніцтва ваеннага ведамства, якія датычацца абавязковага звальнення з ваеннай службы афіцэраў, прапаршчыкаў, салдат кантрактнай службы, рабочых і служачых Узброеных сіл, якія затрымліваліся за кіраванне аўтатранспартам у стане алкагольнага ап'янення, а таксама адхілення ад кіравання службовым аўтатранспартам асоб, схільных да ліхацтва. Аб выніках месячніка начальнікі вайсковых гарнізонаў павінны будуць паведаміць М. Казлову да 15 кастрычніка.

*Алег САКАЛОЎ, БелаПАН.*

*БАЗАРНЫ ДЗЕНЬ*

# Колькі рынак каштуе прадпрымальніку

***Нескладана прыйсці на калгасны рынак і за гадзіну-другую прыкупіць прадуктаў на ўвесь тыдзень. Потым па дарозе дадому з жахам зазірнуць у партаманет і апошнімі словамі клясці цэны, сквапных прадпрымальнікаў і хітрых бабак.***

Адкуль з'яўляюцца ў іх шпроты, кава «Пеле», малако і колькі ім гэта каштуе - не наш клопат. Але вось меркаванне чалавека з таго боку прылаўка, прадпрымальніка **Аляксея**:

- Цяпер не той час, калі надта можна зарабіць. Хаця б захаваць свой бізнес. Не вытрывалі і пайшлі з рынку ў Маладзечне некалькі дзесяткаў прадпрымальнікаў. Тыя, хто застаўся, трымаюць па некалькі пунктаў з адным і тым жа таварам. Адзін месяц на рынку мне каштуе: падаходны падатак - 5 мінімалак (1250000 руб.), заезд на разгрузку і стаянка машыны - 450000 руб., абанемент на месца - 700000 руб. Усё прадаю сам, бо наняць якую-небудзь жанчыну-прадаўца гэта яшчэ два мільёны.

Мы не застрахаваныя і ад нечаканасцей, напрыклад, знікнення бензіну. У Мінск за таварам як паехаць? Выдаткі вялікія. Ці палітычных гульняў, калі цябе вымушаюць гандляваць са стратамі. Прыгадайце нядаўнюю гісторыю з цукрам.

А «навар» цяпер, прыкладам, з бляшанкі шпротаў каля 1500 рублёў, з бутэлькі алею 3-4 тысячы. І чакаць паляпшэння цяжка, будзе толькі павелічэнне тарыфаў, падвышэнне мінімалкі. І адпаведна цэнаў, але ж не па нашай, прадпрымальнікаў, віне.

*Вінцэсь ПУХ.*



*Для гандляра карыстанне цыферблатнымі вагамі рынку ў дзень каштуе 60 тысяч (простых шалевых - 35 тысяч).*

ФОТА АЛЕГА ГУЛЕЦКАГА.

**МАЛАДЗЕЧНА.** Цэны на прадукты харчавання ў сераду на рынку:

| ПРАДУКТЫ | | ЦАНА (ТЫС. РУБ.) | |
|---|---|---|---|
| | | 5.08 | 12.08 |
| Курыныя кумпячкі | 1 кг | 117,1 | **124,8** |
| Кілбаса сыравэндж. | 1 кг | 364 | **307** |
| Сасіскі свіныя | 1 кг | - | **97** |
| Селядзец салёны | 1 кг | 49,5 | **52** |
| Рыс | 1 кг | 42 | **37** |
| Цукар | 1 кг | 31,5 | **32,8** |
| Грэчка | 1 кг | 35 | **38** |
| Алей | 1 л | 95 | **88** |
| Яйкі курыныя | 1 дзес. | 27,7 | **26** |
| Маянэз | 250 г | 25 | **25,4** |
| Кава "Пеле" | 100 г | 85 | **90** |
| Шпроты, бляшанка | 160 г | 35 | **35** |
| Соус там. "Мінскі" | 0,5 л | 40 | **40** |
| Лімоны | 1кг | 83,5 | - |
| **СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ** | | | |
| Смятана | 1 л | 30 | **35** |
| Масла | 1 кг | 100 | **100** |
| Тварог | 1 кг | 30 | **25** |
| Малако | 1 л | 9 | **9** |
| Бульба | 1 кг | 10 | **10** |
| Яйкі курыныя | 1 дзес. | 35 | **38** |

*Падрыхтавала Юлія ВАНСЛАЎ.*



*Агуркі хутка адыдуць. Серада, 26 жніўня, Маладзечна, калгасны рынак.*

ФОТА АЛЕГА ГУЛЕЦКАГА.

# Каб не прагарэць

***АСТРАВЕЦ. Вядомыя хістанні курсу долара на мінулым тыдні наклалі пэўны адбітак на цэны ў мясцовых гандляроў, кошт на тавары.***

Некаторыя прадпрымальнікі палічылі за лепшае наогул спыніць у гэтыя дні гандаль, каб не прагарэць. Менавіта з гэтай прычыны нават і ў панядзелак не працавала крама "Прадукты" па вуліцы Набярэжнай.

*Аддзел інфармацыі.*

# Жыві заўтра, плаці ўчора

***СМАРГОНЬ. Аблвыканком прыняў рашэнне, згодна з якім плату за камунальныя паслугі жыхары вобласці будуць уносіць авансам. Напрыклад, да 20. 08 – за жнівень, у памеры сумы за папярэдні ліпень.***

Як паведамілі прадстаўнікі смаргонскага ЖКГ, пакуль што гэта будзе адбывацца на добраахвотных пачатках. Праўда, мала верыцца, што хтосьці са смаргонцаў згодны аплаціць паслугі наперад. Асабліва жыхары мікрараёна Карані, дзе амаль усё лета няма гарачай вады, а на бульвары Надзей можна рухацца толькі на лодцы. Да таго ж, мяркуемае перакрыццё Расіяй паліўна–энергетычнага крана не абяцае нічога добрага.

*Ала СТРАШЫНСКАЯ.*

*1 ВЕРАСНЯ*

# Новы магазін «Вышэйшай школы»

***МІНСК. Выдавецтва "Вышэйшая школа" адкрывае ў Мінску новы фірменны магазін.***

Як паведаміла БелаПАН намеснік дырэктара выдавецтва **Святлана Пяскова**, гандлёвае прадпрыемства размесціцца ў будынку былой кнігарні "Мастацтва" на праспекце Машэрава. У магазіне з невялікай нацэнкай будуць прадавацца кнігі "Вышэйшай школы", а таксама літаратура падобных выдавецтваў Расіі для навучэнцаў школ, ПТВ і студэнтаў ВНУ.

Адным са шляхоў пашырэння асартыменту кніжнага гандлю з'яўляецца стварэнне вялікага абменнага фонду ў выніку супрацоўніцтва з расійскімі. "Магчымасці нашага супрацоўніцтва з калегамі з Украіны і Балтыі сёння вельмі абмежаваныя, паколькі ў гэтых краінах выходзіць вельмі мала спецыяльнай літаратуры на рускай мове. Наадварот, кнігагандлёўцы гэтых краін закупляюць у Беларусі вучэбныя выданні для рускамоўнага насельніцтва", – заўважыла С. Пяскова. Адкрыццё новага фірменнага магазіна, у якім поруч з літаратурай выдавецтва "Вышэйшая школа" будуць гандляваць кнігамі па мастацтве, запланавана на пачатак верасня.

*Марат ГАРАВЫ, БелаПАН.*

# Завод адчыняе дзверы

***Маладзечанскі радыёзавод "Спадарожнік" вядомы спажыўцам Беларусі і Расіі як буйнейшы пастаўшчык сродкаў сувязі, якія, трэба сказаць, пастаянна мадэрнізуюцца і ўдасканальваюцца канструктарамі і вядучымі спецыялістамі. Так, адной з апошняй распрацовак прадпрыемства стала шматзонавая сістэма "Вілія", якая аб'яднала 600 абанентаў у адным з раёнаў Мінска. А на дзяржаўным узроўні прымаецца праграма тэлефанізацыі Беларусі пры дапамозе гэтай сістэмы. Што гаворыць, бясспрэчна, аб прызнанні яе камутацыйных магчымасцяў.***

У апошні час на заводзе пачалі інтэнсіўна асвойвацца і тавары народнага спажывання, пра вартасці і значнасць якіх можа гаварыць той факт, што амаль на ўсіх спецыялізаваных выстаўках яны адзначаліся дыпломамі І і ІІ ступені. Гэта аўтамабільныя і тэлеантэны, магнітолы, радыётэлефоны, гаспадарчыя прыналежнасці і іншая неабходная ў дамаводстве дробязь.

Аднак ёсць адно "але". Сёння "Спадарожнік" перажывае цяжкасці з пастаўкай камплектуючых вырабаў, рэалізацыяй прадукцыі, выкліканай нізкай плацежаздольнасцю заказчыкаў. Да таго ж, з пераарыентацыяй завода вызваліліся і некаторыя вытворчыя плошчы, высакакласнае, дакладнае абсталяванне не мае поўнай загрузкі. Таму кіраўніцтва пастаянна вядзе пошук пабочных заказчыкаў. Імі могуць быць як фізічныя, так і юрыдычныя асобы любой формы ўласнасці.

Што ж можа прапанаваць насельніцтву Маладзечанскі радыёзавод "Спадарожнік"? Хутка, якасна і танна:

– апрацоўка матэрыялаў рэзаннем (такарныя, фрэзерныя, шліфавальныя работы). Выраб шасцерняў;

– штампоўка з ліставога (металічнага і ізаляцыйнага) матэрыялу, рызіны, пластмас і ліццё са сплаваў;

– газавая, электрадугавая, кантактная зваркі. А таксама стыкавая і аргонная;

– гальванічныя і лакафарбавыя пакрыцці (у тым ліку **ЭЛЕМЕНТЫ КУЗАВОЎ АЎТАМАБІЛЯЎ**). Іх аднаўленне. Электрапаліроўка дэталяў з нержавеючай сталі, газатэрмічнае і вакуумнае напыленне;

– перамяшчэнне грузаў аўтамабілямі і аўтакранамі. Да паслуг насельніцтва аўтобусы "Ікарус";

– выраб друкарскіх плат, жгутоў і кабеляў для тэле–радыёапаратуры (у тым ліку па індывідуальных заяўках спажыўца);

– праектаванне і выраб аснасткі (штампы, прэсформы, ліццявыя формы);

Для нашых чытачоў будзе цікавы і наступны пералік паслуг:

– перамотка і рамонт асінхронных рухавікоў, трансфарматараў і дроселяў (у тым ліку якія выкарыстоўваюцца ў бытавой тэхніцы);

– выраб юбілейных медалёў, бланачнай прадукцыі (чорна–белы друк);

– прадастаўленне ў арэнду вытворчых памяшканняў;

– выраб агароджаў, каркасаў цяпліц;

– заточванне нажоў (прамысловых і бытавых), свердзелаў, метчыкаў, дыскавых фрэз і інш., прамысловых мясарубак, дыскавых піл;

Папярэднія ўзгадненні па кантактным тэлефоне ў Маладзечне 74143 штодзённа з 9.00 да 12.00. Пісьмова па факсе 8 (01773) 74028.

Нашы спецыялісты будуць рады дапамагчы вам, шырока расчыніўшы дзверы прадпрыемства. А ў якасці і надзейнасці выкананых заказаў вы зможаце ўпэўніцца самі. У працэсе экплуатацыі.

*І. Шастаковіч, рэдактар заводскага радыёвяшчання.*

МІНІ-ФУТБОЛ

**Выявіць пераможцу турніру магла толькі каманда "РЭФ". Калі камандавырашае не гуляць, то атрымлівае тэхнічнае паражэнне. Гэта дазволіла б стаць пфшымі "Унікабу". Гульцы "ЗЛМК" літаральна прасілі "РЭФ" выйсці на поле і даць ім шанц. Жартам нехта нават сказаў: «Аддадзім вам палову прэміяльных».**
**«Угаварылі» і сваёй перамогай "РЭФ" абвесціў:**

# ЗЛМК - чэмпіён!



*У суботу на матчы "Маладзечна" – "Белшына" атрымаюць свае ўзнагароды самыя-самыя гульцы ў розных намінацыях.*

*Каманда-пераможца: Аляксей Цярэшка, Уладзімір Багіно, капітан Ігар Шыян, Аляксандр Страх, Аляксандр Субач, Трайковіч, Валеры Мініч, Сяргей Капцюг, Аляксандр Залатухін, Аляксандр Лепеш, Уладзімір Рудніковіч. Трэнер – Іван Хоміч.*

ФОТА СЯРГЕЯ КАПЫЛОВА

Лепшыя: варатар Дзяніс Грачанік ("Унікаб"), бамбардзір Юрый Гневышаў ("Унікаб"), малады футбаліст Андрэй Лявончык ("Рамас"), ветэран Андрэй Радкевіч ("Ветэраны"), нападаючы Ігар Якаўлеў ("Дынама"), футбаліст сярэдняй лініі Вадзім Рыдванскі ("РЭФ"), абаронца Аляксандр Южык ("Пуцеец"). Самы ўніверсальны футбаліст Яўген Цярэшчанка ("Аўтамабіліст") і самы тэхнічны – Валеры Мініч ("ЗЛМК").

Наперадзе турнір «Залатая восень», на які акрамя 18 удзельнікаў чэмпіянату горада ўжо дазаяўляюцца новыя каманды. Паспрабуем вызначыць плюсы і мінусы чэмпіяната 1998 года.

Плюсы: амаль усе калектывы мелі форму, значна павялічылася колькасць балельшчыкаў, з'явіліся пратаколы і папярэднія заявы аб удзеле, было забаронена гуляць ад бартоў (гэта наблізіла да правілаў сапраўднага міні–футбола), суддзі часцей выкарыстоўвалі жоўтую і чырвоную карткі (а значыць, сталі больш патрабавальнымі), медыцынскі работнік меў спецыяльную сумку з лекавымі сродкамі.

Мінусы: не ў кожнай каманды форма мела нумары, нязручная формула правядзення спаборніцтваў (**Анатоль Ішчанка**, іх галоўны суддзя, паабяцаў у наступным годзе правесці змены), не лепшы выгляд пляцоўкі, у пратаколах не ўказваліся прозвішчы "ўзнагароджаных" карткамі, гледачам даводзілася глядзець матчы стоячы (гэта, безумоўна, стамляла). Безумоўна, цікавыя гульні прыцягнулі б яшчэ большую ўвагу, каб у горадзе былі афішы.

І яшчэ адна асаблівасць. Упершыню за гісторыю правядзення чэмпіянатаў на ўсіх матчах прысутнічалі карэспандэнты – "РГ" працавала для вас, балельшчыкі.

*Юлія ВАНСЛАЎ.*

# Аляксандр Лукашэнка ў Маладзечне быў толькі другім

*МАЛАДЗЕЧНА. Добрую справу пачала федэрацыя лёгкай атлетыкі, якая разам з мясцовымі спорткамітэтамі арганізавала ў розных гарадах краіны некалькі стартаў для бегуноў-сярэдневікоў. Адзін з іх праводзіўся ў перапынку футбольнага матча паміж «Маладзечнам» і магілёўскім «Дняпром-Трансмашам».*

Амаль чатыры кругі па стадыёне прабеглі пяць спартсменаў. Цікава было сачыць за барацьбой асноўных кандыдатаў на галоўны прыз **Уладзіміра Духовіча**, што прадстаўляе Мінскую вобласць, і **Аляксандра Лукашэнкі** з Магілёва. Таксама ўдзельнічалі яшчэ адзін магіляўчанін **Алег Барысаў** і выхаванцы мясцовай ДЮСШ браты **Сяргей і Мікалай Дзянісы**.

У такім парадку спартсмены і прыйшлі на фініш. Дзеля справядлівасці трэба адзначыць, што маладзечанскія хлопцы ў адрозненне ад сваіх канкурэнтаў яшчэ юнакі.

*Сяргей ГАЙКОВІЧ.*

# Не лепшы сезон гарадошнікаў

*Вярнуліся з чэмпіянату Еўропы, што праходзіў у Крэменчугу (Украіна), беларускія гарадошнікі, а дакладней сказаць, шасцёра маладзечанцаў.*

На жаль, усяго за дзень да ад'езду атрымаў на вытворчасці траўму рукі наш лідэр **Генадзь Сушко**. Зрабіць замену было ўжо немагчыма. Ён не завяршыў выступленне ў асабістым турніры. У камандным выступленні кідаў біты, перамагаючы боль. А яшчэ крыху прыхварэў **Аляксандр Кулак**, які стаў у выніку толькі 18-м. Лепшы з нашых **Аляксандр Гарошка** заняў 8-е месца. Дарэчы, яго з цяжкасцямі адпусцілі на чэмпіянат з работы на камбінаце хлебапрадуктаў. 13-м быў **Віктар Данілаў**.

У тройку пераможцаў увайшлі вядомыя спартсмены расіянін **Васіль Духанін** і ўкраінцы **Аляксандр Бабіч** і **Вячаслаў Фяцісаў**.

Камандай нашы сталі пятымі пасля двух калектываў з краіны-гаспадара і яшчэ двух з Расіі, якім саступілі. Усяго было дзевяць зборных, прычым, некалькі з сярэднеазіяцкіх краін.

Наперадзе нямала цікавых турніраў, але не такіх адказных. Адзначым Кубак Беларускага тэлебачання, што пройдзе ў Мінску з 1 па 6 верасня.

*Сяргей ГАЙКОВІЧ.*

СМАЧНА ЕСЦІ

***Хоць цяпер цэны на прадукты і "кусаюцца", але ўсё ж такі ў кожнай сям'і спраўляюцца якія–небудзь сямейныя святы. Вось і я хачу параіць некалькі рэцэптаў прыгатавання страў, ад якіх, мяркую, вы не адмовіцеся.***

### Зразы

Лепш за ўсё свініна, але можна і ялавічыну парэзаць на кавалачкі, адбіць, пасаліць, паперчыць, дадаць часнаку. Плаўлены сырок парэзаць на 8 частак і ўзяць столькі ж кавалачкаў масла. Па кавалачку масла і сыра пакласці на адбітае мяса, згарнуць трубачкай, каб не было відаць начыння. Асобна ўзбіць яйкі. Трубачкі спачатку абмакнуць у яйкі, а потым у муку, абсмажыць і крыху падтушыць. Вельмі смачна.

### Курыца пад маянэзам

Тушку курыцы (можна і кавалачкі) пасаліць, пачасночыць, паперчыць. Пакласці на бляху, змазаную маслам. 150–200 г цвёрдага сыру здрабніць на бурачнай тарцы, абсыпаць курыцу і заліць маянэзам. Запякаць у духоўцы. Страва вельмі смачная як гарачая, так і халодная.

### Салата з пячонкі

Адварыць бульбу, пячонку; узяць салёны агурок. [illegible] гэта здрабніць на бурачна[illegible] тарцы. Цыбулю абсмажыць на масле. Усё змяшаць і заправіць маянэзам.

Смачна есці!

*Наталля КАРТАШЭВІЧ, Маладзечна.*

| МІНІ-ФУТБОЛ. ФІНАЛЬНЫ ТУРНІР | |
|---|---|
| Унікаб – Дынама | 1:1 |
| ЗЛМК – РЭФ | 2:1 |
| Дынама – РЭФ | 1:1 |
| Унікаб – ЗЛМК | 2:0 |
| ЗЛМК – Дынама | 3:2 |
| РЭФ – Унікаб | 2:0 |

**АНОНС**

**29.08, субота.**
АФВіС-РШВСМ (Мінск, 10 месца) - Смаргонь (13)
Нёман (Стоўбцы, 11) - Забудова (6)

# Велагонка

***ВІЛЕЙКА. На велагонцы на прызы «Мінскай праўды» па выніках пралогу, індывідуальнай гонкі з раздзельным стартам і пяці групавых з агульным стартам першае каманднае месца занялі прадстаўнікі Мінскага раёна. З сямі калектываў пятымі сталі маладзечанцы.***

Найлепшыя асабістыя вынікі сярод нашых землякоў у **Ігара Касцюка**, які звычайна прыязджаў у другім дзесятку. А пераможцамі і прызёрамі ўвесь час станавіліся прызнаны самым актыўным **Мікалай Каржанеўскі** з Мінска, самы стабільны **Андрэй Войнаў і Дзяніс Яўхута** (абодва – Мінскі раён).

Удзельнічалі 35 юнакоў і 8 дзяўчат ва ўзросце да 18-ці гадоў. Спартсмены атрымалі шмат прызоў ад спонсараў турніру, як грашовых, так і рэчавых: вазы, фотаапараты, іншае. М. Каржанеўскі стаў уладальнікам веласіпеда Мінскага мотавелазавода.

*Сяргей ГАЙКОВІЧ.*

ДРУГАЯ ЛІГА

# Смаргонцы набіраюць ход

**Смаргонь - Нёман (Стоўбцы) 3:1**

***Галы:*** Дукса (35,80), Якубіцкі (50). ***Склад:*** Канапелька, Недавес, Юркевіч, Макей, Васілеўскі, Цярэшчанка (Максіменка), Якубіцкі, Шпілеўскі, Шчасны (Карабінскі), Відук, Дукса (Шашоў).

Па сведчанні трэнера **Андрэя Майсейчанкі**, нашым землякам удалося цалкам перайграць саперніка. Галы **Уладзіслава Дуксы** і навічка каманды **Сяргея Якубіцкага** былі вынікам добрых камбінацыйных дзеянняў, што называецца, працоўнымі. Гол у адказ госці правялі на 52 хвіліне.

«Смаргонь» займае 13 месца з 13 ачкамі і мае шанец абысці «Днепр-2».

**Забудова - Трактар (Мн) 1:2**

***Галы:*** Капленка (4). ***Склад:*** Будрык, Нядзелька (Грыгаровіч), Івашкевіч, Капленка, Рэзепаў, Д. Ваўчок, Лутовіч, Касцюкевіч, Дараховіч, В. Ваўчок (Макрыцкі), Мятліцкі (Макей).

На мяч, забіты са штрафнога **Дзмітрыем Капленкам**, госці адказалі двума, да якіх прывялі флангавыя навесы і неразбярыха ля варот гаспадароў. Не прынесла чысцінцам плёну замена ў перапынку абодвух нападаючых. Адчуваецца адсутнасць траўміраванага месяц таму дыспетчара **Уладзіміра Карыцкі**.

«Забудова» - 6 месца і 31 ачко. Ніжэй «Трактар» з такой жа колькасцю ачкоў, уверсе з 34 - «Змена-БАТЭ» і «Лакаматыў».

*Сяргей ГАЙКОВІЧ.*

АНОНС

**29.08, 17.30. «Маладзечна» - «Белшына» (Бабруйск)**

Бабруйчане пасля дамашняй перамогі над мінскімі тарпедаўцамі з лікам 1:0 (Балашоў) выйшлі на трэцяе месца. Успомнім, летась яны літаральна выпусцілі са сваіх рук чэмпіёнства. Спачатку прайгралі сталічнаму «Дынама» і віцяблянам, а потым страцілі ачкі ў Маладзечне. Лік той сустрэчы 1:1. Увесну ў Бабруйску гаспадары выйгралі 1:0 (Турчыновіч). Баланс ранейшых паядынкаў +3=4-3 18-12.

Не замацаваўся на трэнерскім мосціку «Белшыны» былы настаўнік маладзечанцаў Ігар Бялоў, які зімою прыняў даволі нечаканае запрашэнне ўзначаліць гэты клуб (Апошнім часам ён заўважаны побач з Леанідам Кучуком – кансультант, селекцыянер?). А вось варатар Сяргей Шалай стабільна тут гуляе. Лідэрамі бабруйчанаў з'яўляюцца паўабаронцы браты Ігар і Эдуард Градабоевы, Раман Лявіцкі (помнім яго па выступленнях за маладзечанскую каманду), Дзмітрый Балашоў (кандыдат у нацыянальную зборную), нападаючы Андрэй Хлебасолаў.

*Сяргей ГАЙКОВІЧ.*

ВЯЛІКІ ФУТБОЛ

# Феміда супраць "Маладзечна"

*Амаль увесь першы тайм мяч знаходзіўся на палове гаспадароў поля, аднак магіляўчане не змаглі скарыстаць тэрытарыяльную перавагу.*

**20 тур. 21 жніўня. «Маладзечна» - «Днепр-Трансмаш» 1:2**

**Галы:** Каўтовіч (41 – п); Агароднік (49), Лукашоў (60)
**Склад:** Пясецкі, Лебедзеў, Ліс, С. Кабельскі, Міронзчык, Клімовіч (к), Каўтовіч, Шамшорык, Казяк, Міхалёў (Крывіцкі, 85), Дзямідчык (Вострыкаў, 78)

Некалькі разоў добра згуляў варатар маладзечанцаў **Максім Пясецкі**, кожны ўдалы крок якога балельшчыкі ацэньвалі апладысментамі. Раптам суддзя пачаў даволі часта памыляцца наконт футбалістаў "Маладзечна". Не вытрымаўшы гэтага, стадыён пачаў скандзіраваць: "Суддзю з поля!". На перапынак гаспадары ішлі, маючы мінімальную перавагу. У сваёй штрафной пляцоўцы магіляўчане "завалілі" **Віталя Казяка**. Каўтовіч без перашкод рэалізаваў 11–метровы.

Другі тайм. Памылка ў абароне – і трэба пачынаць усё спачатку. Тэмп гульні стаў павольны. Лідэра і аўтсайдэра можна было адрозніць толькі па форме. Плюс камандзе "Маладзечна", мінус беларускаму футболу. За[illegible]шы другі мяч, госці бо[illegible] часу пачалі праводзіць "дома". Вартавыя з іх атрымаліся добрыя – тры ачкі яны зарабілі. Праўда, не без дапамогі "чалавека ў чорным". Феміда страціла зрок?

*Юлія ВАНСЛАЎ.*

# Паражэнне ў Слоніме

*Трэнер Васіль Віскушэнка расказаў, што на ходзе гульні значна адбілася выдаленне Тараса Шамшорыка. Прычынай, па якой Вадзім Жук паказаў яму чырвоную картку, стала нецэнзурная брань.*

**21 тур. 25 жніўня. «Камунальнік» - «Маладзечна» 3:1**

**Галы:** Дзямідчык (47); А. Дзегіль (50), Шупілаў (64), Савіцкі (74). **Склад:** Пясецкі, Лебедзеў, Ліс, Андросік, Міронзчык, Клімовіч (кап.), Каўтовіч, Шамшорык, Казяк, Міхалёў (Крывіцкі, Вострыкаў), Дзямідчык.

Неўзабаве пасля перапынку **Сяргей Дзямідчык** збег ад апекуноў, перайграў апошняга абаронцу і моцным ударам у блізкі вугал прабіў галкіпера. Але хутка ў контраатацы гаспадары аднавілі нічыйны лік. Наогул, пасля перапынку дамінавалі слонімцы. Цяжка другі матч запар гуляць за сябе і за таго хлопца, ды яшчэ пры такім шчыльным графіку, калі туры праводзяцца праз тры дні на чацверты. На два галы гаспадароў не ўдалося адказаць чымсьці канкрэтным.

Настрой у футбалістаў, як бы там ні было, добры. Усе разумеюць, што нічога пакуль не страчана, трэба яшчэ больш працаваць. Цяпер «Маладзечна» мае 7 ачкоў, «Камунальнік» – 10, «Нафтан-Дэвон» – 12.

*Сяргей ГАЙКОВІЧ.*

## ГАРАСКОП 31 ЖНІЎНЯ – 6 ВЕРАСНЯ

**АВЕН (21.03–20.04)**
Станеш знакамітай асобай сярод пэўнага акружэння.

**ЦЯПЕЦ (21.04–20.05)**
Важны дзень – **6**. У тваім жыцці з'явіцца нешта таямнічае.

**БЛІЗНЯТЫ (21.05–21.06)**
Кепскія дні **31, 1**, важны – **5**. Не дай збіць сябе з панталыку людзям, якія думаюць толькі пра сябе.

**РАК (22.06–22.07)**
Кепскія дні **4–6**, важны – **5**. Недасягальнае стане для цябе рэальным.

**ПЕЎ (23.07–22.08)**
Кепскія дні **3–6**. Будзь уважлівы, калі маеш справы з транспартам.

**ДЗЕВА (23.08–22.09)**
Кепскія дні **5, 6**, важны – **2**. Палепшыш сваё агульнае фінансавае становішча.

**ШАПІ (23.09–22.10)**
Важны дзень **2**. Арганізуй пікнік для калег – гэта павялічыць узаемапаразуменне паміж вамі.

**СКАРПІЁН (23.10–21.11)**
Наладзяцца стасункі з дамашнімі.

**СТРАПЕЦ (22.11–21.12)**
Асцярожней рэагуй на вострыя пытанні, бо можа пачацца спрэчка, якая станецца не на карысць табе.

**КАЗЯРОГ (22.12–19.01)**
Добрыя дні **4–6**. Для цябе наступаюць лепшыя часы – абавязкова скарыстай гэта.

**ВАДАПЕЙ (20.01–18.02)**
Добрыя дні **3–5**. Партнёрскія зносіны будуць займаць увесь твой час і ўвагу.

**РЫБЫ (19.02–20.03)**
Добрыя дні **5, 6**. Блізкі чалавек з–пад знака Рака сам паклапоціцца аб дзецях.

